# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года

Аўторак, 13 верасня 1994 года

№ 97 (10797)

Цана 30 руб.


ФАКТЫ ПАДЗЕІ АРГУМЕНТЫ МЕРКАВАННІ

## ДОБРЫ КРОК НАПЕРАД

Старшыня Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч выказаў поўную падтрымку дзеянняў беларускай дэлегацыі, якая знаходзілася на перагаворах Савета кіраўнікоў урадаў СНД у Маскве. Аб гэтым ён заявіў на праведзенай 9 верасня прэс-канферэнцыі.

"Заключэнне плацежнага саюза, пагадненне аб узаемнай канверсуемасці валют — гэта дастаткова адпрацаваныя дакументы, і майго ўдзелу ў сустрэчы кіраўнікоў урадаў не патрабуецца", — сказаў галоўны банкір рэспублікі, адказваючы на пытанне, чаму ён не паляцеў разам з прэм'ерам у Маскву. "Прэм'ер хацеў, каб я быў разам з ім, аднак у выніку таго, што я поўнасцю згодны з намерамі і дзеяннямі нашай дэлегацыі, я застаўся ў Мінску", — заявіў С.Багданкевіч.

Станіслаў Багданкевіч таксама паведаміў, што ў Маскве падпісваюцца пагадненне аб намерах і рамачныя пагадненні. Пасля гэтага павінны быць заключаны двухбаковыя дагаворы аб узаемнай канверсуемасці нацыянальных валют. "Асноўная перашкода для ўвядзення ўжо сёння ўзаемных разлікаў і плацяжоў на базе нацыянальных валют у тым, што ў большасці дзяржаў існуе велізарная інфляцыя і велізарная няўстойлівасць курса нацвалют. У Беларусі інфляцыя складае 50, а, можа, ўжо і больш працэнтаў у месяц. Аднак падпісаныя цяпер дакументы — добры крок наперад, які дасць нам магчымасць заключыць двухбаковае пагадненне з Расіяй і іншымі дзяржавамі аб узаемнай падтрымцы канверсуемасці нацвалют".

На пытанне, калі ж нарэшце мы зможам стабілізаваць эканоміку, збавіцца ад інфляцыі, Багданкевіч адказаў, што для гэтага неабходна палітычная воля, адыход ад папулізму. Яе ж не хапае, хоць папулізму ў апошні час стала менш. "Сёння ідзе працэс рэфармавання цэнаўтварэння, дасягнута дагаворанасць і Прэзідэнт даў абяцанне, што эмісія будзе спынена. Гэта закладваецца ў антыкрызісную праграму. Калі яна будзе рэалізавана ў тым выглядзе, што мы прапануем, то стабілізацыя, якая падразумявае інфляцыю менш чым 5 працэнтаў у месяц, настане к ліпеню наступнага года".

*БЕЛІНФАРМ.*

## НЕ СЫСЦІ З ПРАВІЛЬНАГА ШЛЯХУ

Як вядома, на першае кастрычніка намечаны Кангрэс народа Беларусі, ініцыятарам правядзення якога з'яўляецца Народны рух Беларусі.

Старшыня НРБ Сяргей Гайдукевіч у гутарцы з карэспандэнтам БЕЛІНФАРМа адзначыў, што кангрэс чакаецца вельмі цяжкім: трэба будзе выпрацаваць платформу да парламенцкіх выбараў. Упершыню на кангрэсе будуць прадстаўлены ўсе палітычныя партыі, якія ўваходзяць у НРБ.

У адрозненне ад першага кангрэс будзе вырашаць чыста ўнутраныя праблемы, таму на яго не запрошаны замежныя госці. А вось колькасць удзельнікаў чакаецца вялікай. Цяпер ў састау НРБ уваходзяць 3 партыі, 6 грамадскіх арганізацый у якасці асацыіраваных членаў, 24 арганізацыі — у якасці пастаянных. Арганізацыі НРБ ёсць у 104 раёнах рэспублікі.

■ АПК і рынак

# ПАТРЭБНА АСАЦЫЯЦЫЯ,

**лічыць фермер з вёскі Акцябр Лагойскага раёна У.І.Кішкурна**

Знаёмства з «фазэндай», як жартам называе свой фермерскі ўчастак У.І.Кішкурна, пакінула прыемнае ўражанне. Закінутая, пры самым лесе зямля, парослая лапушыстым баршчэўнікам, кустоўем, у калгасе «Спадарожнік» ужо наогул не выкарыстоўвалася. І вось, калі Уладзімір Іосіфавіч прыклаў да яе рукі, у пачатку жніўня прыемна радавалі вока на колішняй няўдобіцы залатыя разлівы азімага жыта, ячменю, зялёныя радкі бульбы. Побач з пасевамі абнесены агароджай ладны загон, заняты сталовымі буракамі, цыбуляй, капустай. Тут жа, у лагчыне-ручаіне, раскінуўся штучны вадаём, з трубой-застаўкай на дарозе, якая, дарэчы, як і сажалка, таксама пабудавана фермерам.

Гледзячы на спелую збажыну, пацікавіўся ў У.І.Кішкурны, чаму не пачынае ён уборку. Прамарудзіш тыдзень — глядзіш, і частку ўраджаю страціш. А ўраджай, па ўсім відаць, добры.

— Сам разумею, што ўбіраць трэба, — згаджаецца Уладзімір Іосіфавіч, — ды вось закавыка: камбайна ўласнага не набыў, а ў калгас ісці і прасіць пакуль не адважваюся, у іх сваіх спелых палеткаў нямала. Чакаю, пакуль спадзе там напал жніва.

Фермер на момант змаўкае, абводзіць позіркам участкі збажыны, затым працягвае:

— Нам, фермерам, патрэбна ствараць асацыяцыю, каб вырашаць найбольш складаныя задачы агульнымі намаганнямі, а не ў адзіночку. Той жа збожжаўборачны камбайн мне, па сутнасці, і не патрэбен. Я пакуль што маю ўсяго 13,5 гектара зямлі, з якіх збожжавыя займаюць толькі 5 гектараў. Нам бы на 3—4 фермераў мець адзін збожжаўборачны камбайн. Як і сушылку з зернеачышчальнымі машынамі.

Трэба сказаць, што ў самога У.І.Кішкурны тэхнікі па сённяшнім часе даволі багата. Ён мае тры трактары, бульбасаджалку, бульбакапалку, культыватар, двухкорпусны і трохкорпусны плугі, прычэпы, бароны, каткі, граблі-варушылкі, прэс-падборшчык і іншы прычапны інвентар. Але шмат чаго яшчэ няма. У першую чаргу, лічыць фермер, яму патрэбны збожжавая сеялка, гноераскідальнік, грузавая аўтамашына. Ну і збожжаўборачны камбайн.

— Першыя парасткі фермерскай асацыяцыі, — расказаў Уладзімір Іосіфавіч, — у нас ужо з"явіліся. У вёсцы Старынкі Акалоўскага сельсавета жыве фермер Міхаіл Папоў. У яго ёсць гноераскідальнік, але няма прэс-падборшчыка. Пагаварылі мы з ім, і ён вясной прыехаў, дапамог мне ягонай тэхнікай унесці ў глебу гной. А я яму спрасаваў ягонае сена... У раёне павінен быць пункт пракату, дзе б бы фермер у любы час мог за пэўную плату ўзяць на дзень-два збожжаўборачны камбайн, іншую складаную тэхніку. Тады ў фермераў вынікі працы будуць значна лепшыя. А пакуль складваецца ўражанне, што наша прадукцыя нікому не патрэбна.

Такі рэзкі вывад У.І.Кішкурна абгрунтаваў наступнымі фактамі. Трымаючы дзвюх кароў, дзвюх цялушак, дзевяць свінаматак, іншую жыўнасць, ён, зразумела, частку жывёлагадоўчай прадукцыі рэалізуе, каб мець сродкі на пагашэнне крэдытаў, набыццё сельскагаспадарчай тэхнікі, узвядзенне гаспадарчых пабудоў. Аднак, як падкрэсліў фермер, свініну даводзіцца прадаваць перакупшчыкам, якія за яе маюць добры «навар». Летась шмат давялося яму паездзіць, каб збыць таварнае збожжа, бульбу.

У сувязі з гэтым У.І.Кішкурна зазначыў, што калі б у раёне была створана асацыяцыя фермераў, то яна магла б узяць на сябе вырашэнне такіх пытанняў, як збыт і перапрацоўка сельгаспрадукцыі. І тады б адпала патрэба ў розных перакупшчыках, пасрэдніках і да іх падобных. Фермеры ж не толькі спаўна атрымлівалі б за сваю працу, але і мелі б значна больш часу на вырашэнне вытворчых пытанняў. А іх у кожнага, хто стаў на гэты нялёгкі шлях, вельмі шмат.

На двары Уладзіміра Іосіфавіча я звярнуў увагу на каркас, які нагадваў ці то вагончык, ці то садовы домік.

— На сваёй «фазэндзе», — растлумачыў У.І.Кішкурна, — мінулай восенню я разбіў сад, заклаў плантацыі лямцавай вішні, чорных і чырвоных парэчак. І што вы думаеце: праз некалькі дзён большасці кустоў парэчак і вішань не стала, іх выкапалі ноччу зладзеі. Значыць, на ўчастку патрэбна ўзводзіць дом, іншыя пабудовы. На першым часе змайструю вагон-домік на колах і пастаўлю на ўчастку. А там буду брацца і за закладку будучай хаты.

Зрэшты, месца для сядзібы У.І.Кішкурна ўжо выбраў, будуе калодзеж. У сажалку нават запусціў малявак рыбы. Мяркуе заняцца і развядзеннем качак — сажалка ж побач.

Па прафесіі Уладзімір Іосіфавіч заатэхнік. Доўгі час працаваў у калгасе «Спадарожнік» брыгадзірам жывёлагадоўчай фермы. І ў сваёй фермерскай гаспадарцы развядзенню жывёлы ўдзяляе вялікую ўвагу. Сёння вельмі цяжка з набыццём мінеральных угнаенняў, таму глебу запраўляе ў асноўным арганікай, частку якой купляе ў калгасе. Ядахімікатаў не прымяняе. Між тым пасевы і збожжавых, і бульбы ў яго чыстыя ад пустазелля. Гэтага фермер дабіваецца шляхам стараннай і шматразовай перадпасяўной апрацоўкі глебы, своечасовага догляду пасеваў.

— Без падтрымкі з боку дзяржавы фермерам цяжка ўзняцца на ногі і стаць сапраўднымі канкурэнтамі калектыўных гаспадарак у напаўненні спажывецкага рынку сельгаспрадукцыяй, — зазначыў Уладзімір Іосіфавіч. — Вось я, напрыклад, каторы час не магу вырашыць пытанне з набыццём грузавой аўтамашыны, пашырэннем участка як мінімум да 50-ці гектараў. А трэба і электралінію да будучай сядзібы падвесці. Крэдыт зараз узяць складана. Раней шыя, вядома, даўно вярнуў. Адным словам, будзе падтрымка — будуць вынікі. Абавязкова.

Ад сябе хочацца дадаць: на такіх, як У.І.Кішкурна, можна разлічваць. Зямля, што ў адпаведнасці з дзяржаўным актам перададзена яму ў бестэрміновае карыстанне з правам атрымання ў спадчыну, знаходзіцца ва ўмелых, гаспадарлівых руках.

*Іван СІЛЯЎКА.*

## ДЗЕЛАВЫЯ КАНТАКТЫ

Турыстамі, бізнесменамі, прадстаўнікамі розных фірм і арганізацый ужо нікога не здзівіш. Усе мы прывыкаем да супрацоўніцтва з імі. Нават такія маленькія арганізацыі, як архівы, уцягнуты ў новыя адносіны.

Філіял Дзяржархіва Мінскай вобласці ў г.Маладзечна ўстанавіў дзелавыя кантакты з мэрыяй г.Эслінгена і сваімі калегамі з Эслінгена і Штутгарта з Германіі. Адбыўся абмен візітамі, якімі задаволены абодва бакі. Беларусы атрымалі вельмі неабходную для іх тэхніку, што дазволіла пачаць работу па выкарыстанню дакументаў на высокім узроўні, а нямецкія калегі — магчымасць пазнаёміцца з зацікавіўшымі іх каштоўнымі паперамі.

Сёлета архіў наведалі 27 даследчыкаў, сярод якіх шэсць іншаземцаў. Асабліва цесныя сувязі наладжаны з Беластоцкім філіялам інстытута гісторыі Варшаўскага ўніверсітэта.

## ЦІ БУДУЦЬ ПЕРАМЕНЫ?

9 верасня ў Маскве ў «Прэзідэнт-атэлі» адбылося чарговае пасяджэнне Савета кіраўнікоў урадаў Садружнасці Незалежных Дзяржаў. На разгляд прэм'ер-міністраў было вынесена больш за 20 пытанняў, якія датычаць далейшага развіцця інтэграцыйных сувязей дзяржаў Садружнасці, а таксама святкавання 50-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.

Эканамічны пакет дакументаў звязаны з рэалізацыяй падпісанага раней Дагавора аб стварэнні эканамічнага саюза дзяржаў СНД. У сувязі з гэтым найбольшая ўвага кіраўнікоў урадаў была звернута на абмеркаванне праблем стварэння Міждзяржаўнага эканамічнага камітэта — першага выканаўчага органа эканамічнага саюза, прыняцце пагаднення аб плацежным саюзе, мемарандума аб асноўных напрамках перспектыўнага плана інтэграцыйнага развіцця СНД.

Па ініцыятыве некаторых краін, а таксама статутных і галіновых органаў Садружнасці на абмеркаванне Савета кіраўнікоў урадаў былі вынесены праблемы сацыяльнай абароны і аховы здароўя грамадзян, якія пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі, іншых аварый і ядзерных выпрабаванняў. Абмяркоўваліся таксама пытанні супрацоўніцтва ў галінах хіміі і нафтахіміі, будаўніцтва, тэхнічнага пераасначэння і абнаўлення чыгуначнага і рухомага саставу. Асобны блок склалі пытанні, звязаныя з 50-годдзем Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. У іх падрыхтоўцы Беларусь прымала самы непасрэдны ўдзел. Гэты блок пытанняў пасля гадзіннага абмеркавання быў прыняты без змен і дапаўненняў.

Паводле слоў выканаўчага сакратара СНД Івана Каратчэні, калі эканамічныя пагадненні будуць падпісаны кіраўнікамі ўрадаў і пачнуць працаваць, Садружнасць чакаюць сур'ёзныя перамены.

*БЕЛІНФАРМ.*

*Загадчыца магазіна № 1 Маладзечанскай міжраённай універсальнай гандлёвай базы аблспажыўсаюза Ірына СЯМЁНАВА за гады работы справу сваю вывучыла да тонкасцей, заўсёды знаходзіць агульную мову з наведвальнікамі. Яна культурна і ветліва абслугоўвае пакупнікоў.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*



### ДА ВЕДАМА ДЭПУТАТАЎ АБЛАСНОГА САВЕТА

Заўтра, 14 верасня г.г., у будынку аблвыканкома па вуліцы Чкалава, 5, адбудзецца XVII сесія абласнога Савета дэпутатаў.

Пачатак работы сесіі ў 10 гадзін.

### НАДВОР'Е

*Сёння ўдзень па вобласці чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра — 19—24, у Мінску — 21—23 градусы цяпла, кароткачасовы дождж.*

## ЗА ЛЬГОТНЫЯ КРЭДЫТЫ

На Фаніпальскім заводзе жалезабетонных маставых канструкцый Дзяржынскага раёна створаны будаўнічы кааператыў, сіламі якога за апошні час здадзена ў гарпасёлку нямала кватэр палепшанай планіроўкі. Сёлета, напрыклад, справілі наваселлі больш за сто сем"яў рабочых і служачых. Узводзяцца яшчэ два жылыя дамы.

Асабліва інтэнсіўна забудоўваецца індывідуальны сектар. Завод дапамагае забудоўшчыкам — сваім работнікам набыць за адносна невялікую цану неабходныя матэрыялы, выдзяляе льготныя крэдыты. Магчыма, гэта адна з прычын стабільнай работы прадпрыемства, якое не дапускае зніжэння аб"ёмаў вытворчасці і скарачэння штатаў.

*Анатоль ШАРАЕЎ.*

## ПАРЛАМЕНТ — СЯБАР, АЛЕ ІСЦІНА ДАРАЖЭЙШАЯ

Хто ёсць хто? Чакаецца, што менавіта гэтае пытанне будзе для парламентарыяў асноўным на працягу першых гадзін работы чарговай сесіі Вярхоўнага Савета 27 верасня. Падставай для такіх «разборак» паслужыць істотная перагрупіроўка сіл у парламенце, звязаная з выбраннем першага Прэзідэнта рэспублікі. Справа ў тым, што некалькі дзесяткаў народных выбраннікаў былі запрошаны для работы ў апарат Прэзідэнта, а значыць, згодна з дзеючай цяпер Канстытуцыяй, павінны аўтаматычна скласці з сябе дэпутацкія паўнамоцтвы.

На думку намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета Івана Бамбізы, якая была выказана ім у час сустрэчы з прадстаўнікамі Сусветнага банка, такія перастаноўкі могуць сыграць толькі на карысць, зрабіўшы супрацоўніцтва работнікаў апарату Прэзідэнта з іх былымі калегамі больш цесным. У той жа час, на думку асоб, блізкіх да кіраўніка дзяржавы, у Прэзідэнта ёсць апасенні, што калі Вярхоўны Савет пакінуць блізкія і даверныя асобы, ён можа ў вышэйшым заканадаўчым органе мець даволі моцную апазіцыйную структуру.

У сувязі з гэтым Аляксандр Лукашэнка і не спяшаецца з афіцыйнымі назначэннямі некаторых членаў сваёй каманды, неабходных яму ў якасці народных дэпутатаў у парламенце. Адным з іх і называецца кандыдатура Дзмітрыя Булахава.

*БЕЛІНФАРМ.*

## ВЫШЫНІ СКАРАЮЦЦА НАСТОЙЛІВЫМ

**Сёлетні год для жывёлаводаў калгаса імя Чкалава Барысаўскага раёна вельмі адметны: удалося нарэшце выйсці з зацяжнога крызісу і дабіцца росту ўсіх вытворчых паказчыкаў. Ёсць рэальная магчымасць выйсці па надоях малака ад каровы за год на трохтысячны рубеж, што будзе прыкладна на 800 кілаграмаў больш, чым летась. Адпаведна на 30 працэнтаў узрасце валавы надой малака. Амаль на 40 працэнтаў у параўнанні з мінулым годам павінна павялічыцца і валавая вытворчасць мяса: сярэднясутачнае прыбаўленне ў вазе жывёлы пераўвышае мінулагодняе больш як на 130 грамаў. З"явілася магчымасць прадаваць племянны маладняк буйной рагатай жывёлы, бо прыкметна палепшылася племянная работа.**

Асноўны фактар сёлетніх поспехаў — паляпшэнне кармлення жывёлы. Асабліва вясной і ўлетку. Дзякуючы клопату аб выпасах, у прыватнасці, своечасоваму скошванню рэштказ травастою, падкормцы плошчаў пасля першага скормлівання, цяпер на іх вырасла добрая атава. І, як вынік, сярэднясутачны надой у канцы жніўня складаў амаль 10 кілаграмаў і на 2 кілаграмы перавысіў леташні ўзровень.

Нельга скідваць з рахунку і майстэрства жывёлаводаў, іх вопыт і настойлівасць у дасягненні пастаўленай мэты. Гэта датычыць у першую чаргу калектыву фермы "Комплекс" (загадчык Ф.М.Іванюценка) — даярак С.І.Масковай, З.І.Шакавец, аператараў па гадоўлі маладняку Л.В. і А.К.Няхайчык, П.Ф.Маўчанскага, аператараў па адкорму буйной рагатай жывёлы Л.В.Барадзюк, Я.І.Селезня і іншых.

На надыходзячы стойлавы перыяд назапашана больш як 10 цэнтнераў кармавых адзінак травяністага фуражу — адзін з лепшых паказчыкаў у раёне. Засмучае толькі прагназуемы недабор ураджаю бульбы і кармавых караняплодаў. І тым не менш старшыня калгаса М.В.Панцялей упэўнена сцвярджае, што зімоўка жывёлы будзе сытная. І, дададзім, — цёплая.

Пытанне аб падрыхтоўцы жывёлагадоўчых памяшканняў да зімы разгледжана на пасяджэнні праўлення яшчэ ў чэрвені. Адказнасць за ход падрыхтоўчых работ ускладзена на намесніка старшыні В.М.Лазерку. Кожны з будаўнікоў, а іх на фермах штодзённа працуе па 10—12 чалавек, ведае свой участак работы. Днямі закончана рэканструкцыя памяшкання жывёлагадоўчага комплексу. У абноўленым кароўніку заменена ўсё абсталяванне, тут стала больш прасторна.

*Сцяпан БУКАЦІЧ.*

## Крымінал-тэлетайп з Салігорска

### І ПІСТАЛЕТ НЕ ДАПАМОГ

Юрый Э. вяртаўся дадому далёка за поўнач. Смела ў такі позні час малады чалавек, мабыць, ішоў таму, што меў у кішэні газавы пісталет.

Напалі на яго нечакана. Моцна пабілі. Начныя рабаўнікі забралі гадзіннік, залаты пярсцёнак. І пісталет, якім Юрый так і не змог абараніцца. Выходзіць, самы лепшы сродак абароны сёння — быць асцярожным, позна не гуляць.

### ЗЛАШЧАСНАЯ ФОРТКА

Аб тым, што праз звычайную фортку на першым паверсе з кватэры могуць вылятаць не толькі шкодныя газы, а і дарагія рэчы, работнікі міліцыі папярэджвалі гараджан не раз. Але Любоў Н. ігнаравала гэтае папярэджанне. І была пакарана. Неяк, вярнуўшыся ў сваю кватэру на вуліцы Леніна, яна не знайшла дзвюх норкавых шапак, паліто, парасона, спартыўнага касцюма. Не цяжка здагадацца, што рэчы выляцелі ў фортку...

### БУДАЎНІКІ-РАБАЎНІКІ

Згрузіў на сваім дачным участку чалавек будаўнічыя блокі для доміка. Калі праз некалькі дзён вярнуўся, то ўбачыў, што будаўнічых матэрыялаў няма, а навокал, як у песні спяваецца, адна прымятая трава... А вось чатыром патэнцыяльным «будаўнікам» з аўтатранспартнага цэха «Беларуськалія» пашэнціла менш. Іх накрылі ў тупіку чыгуначных пуцей Першага рудаўпраўлення, дзе мужыкі збіраліся злямзіць ажно дзве тоны цэменту, які прыйшоў у адрас РБМУ № 3. У той жа дзень з дома, што ўзводзіцца на праспекце Міру, хтосьці сцягнуў 22 катушкі руберойду.

Вось дык будаўнічкі пайшлі...

### ХЛЕБ НАШ НАДЗЕЙНЫ

Чаго не падзяліў Васіль Б. з салігорскім вадзіцелем — у гісторыі гэтай не так і важна. Цікава іншае. Калі гараджанін у вёсцы Старыя Цярушкі на «Жыгулях» рабіў паварот, Васіль ударыў боханам хлеба па лабавому шклу. І разбіў яго.

Выходзіць, хлеб мы выпякаем моцны, надзейны. Чаго не скажаш аб шкле, якое вырабляецца ў блізкім замежжы.

### УБІЎ У ГАЛАВУ

Вельмі важную ісціну, хутчэй за ўсё накшталт «чалавек — гэта гучыць горда», імкнуўся ўбіць у галаву сына-пяцікласніка Іван Г. Бацька так захапіўся выхаваннем, што хлапчука хутка даставілі ў неўралагічнае аддзяленне бальніцы. Дыягназ: страсенне мазгоў, закрытая чэрапна-мазгавая траўма.

Цяпер трэба выхоўваць бацьку. Не дай бог яго ж метадам...

### ХТО ПЕНСІЯНЕРКУ НЕ ПАКРЫЎДЗІЦЬ?

Сапраўды, дастаецца гэтай катэгорыі людзей. Працавалі, працавалі, пенсію з вялікімі нулямі атрымліваюць, а купіць за яе нешта не вельмі разгонішся. А тут яшчэ і «знізу» дапякаюць. Шасцідзесяцідвухгадовая жанчына з вёскі Гоцк была ўпэўнена, што перазімуе без праблем: назапасіла 30 кілаграмаў сала, 20 бляшанак розных кансерваў. Але ноччу нейкі нягоднік узламаў замок, падчысціў усе запасы.

Хтосьці набраў прадуктаў, згубіўшы апошнюю кроплю сумлення.

### НЮХ НА КАШАЛЁК

«Мой кабінет — мая крэпасць!» — лічаць многія кіраўнікі, чыноўнікі. І нярэдка расплачваюцца за гэта. Як, напрыклад, работніца аптэкі № 208. Здаецца, толькі на хвіліну выйшла са свайго кабінета, вярнулася — а кашалька і след прастыў. Разам з 20 доларамі і 40 тысячамі «зайчыкаў». Другая жанчына пакінула свой кашалёк у музычнай зале дзіцячага сада № 7. І яму «ногі прыставілі»...

Абедзве работніцы гавораць, што ніякіх пабочных людзей у гэтых памяшканнях быць не магло. У такім разе вывад напрошваецца не менш сумны...

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*

